Інфармацыйны бюлетэнь № 12/98

# Каталіцкія НАВІНЫ

ВЫДАННЕ МІНСКА-МАГІЛЁЎСКАЙ АРХІДЫЯЦЭЗІІ РЫМА-КАТАЛІЦКАГА КАСЦЁЛА



"Вось Гэты прызначаны... на знак, якому працівіцца будуць"
/Лк 2,37/

Бэтлеем, капліца Нараджэння Хрыста

...Збіраючыся пры Бэтлеемскай стаенцы і праслаўляючы ўбогае немаўлятка ў яслях, пастараймася глыбей пранікнуць у вельмі дзіўнае, на першы погляд, прароцтва Сімеона, калі крыху пазней Юзаф і Марыя ўносілі гэтае Дзіцятка ў святыню, каб ахвяраваць Яго Богу згодна з тагачасным правам: "Вось Гэты прызначаны... на знак, якому працівіцца будуць"...

**(З пастырскага ліста кардынала К.Свёнтка на Божае Нараджэнне – с.2-3)**

**У нумары:**

# Пастырскі ліст на Божае Нараджэнне Году Панскага 1998



"Вось Гэты прызначаны... на знак,
якому праціві́цца будуць"
/Лк 2,37/

Збіраючыся пры Бэтлеемскай стаенцы і праслаўляючы ўбогае немаўлятка ў яслях, пастараймася глыбей пранікнуць у вельмі дзіўнае, на першы погляд, прароцтва Сімеона, калі крыху пазней Юзаф і Марыя ўносілі гэтае Дзіцятка ў святыню, каб ахвяраваць Яго Богу згодна з тагачасным правам: "Вось Гэты прызначаны... на знак, якому праціві́цца будуць".

Як жа гэта? Дзіцятка Езус, якое прыйшло на свет, каб ашчасліві́ць людзей праз іх адкупленне, павінна стаць для іх знакам супраціву?

Але гэта так. Ерузалем, народ, абраны Богам, яшчэ пры жыцці Езуса паўстаў супраць Яго і падняў руку, каб Яго ўкрыжаваць. А пасля Рым, тагачасны ўладар свету, прадоўжыў гэты знак супраціву і ўчыніў крывавы пераслед Ягоных вызнаўцаў. І гэты супраціў працягвалі наступныя пакаленні ў наступных вяках і так будзе да канца свету.

Задумаемся ж над гэтаю дзіўнаю з`яваю ў гісторыі чалавецтва.

А найперш глянем на "вялікіх гэтага свету". Чалавек, які ўзняўся над звычайным, сярэднім узроўнем людзей, ці то дзякуючы велічы свайго розуму, ці таксама сіле здабытай улады, сустракаецца з пратэстам і супраціўленнем непрыяцеляў, якія змагаюцца з ім. Заўсёды знаходзіцца той, хто рознымі спосабамі імкнецца прынізіць і нават звергнуць вялікіх гэтага свету. Дзіўна гэта, але часам доказам вартасці чалавека становіцца факт пратэсту і барацьбы супраць яго. Па колькасці праціўнікаў і сіле іх супраціўлення можна часам меркаваць пра тую ці іншую вартасць чалавека.

А цяпер гляньма на гэтае Дзіця ў Бэтлеемскай стаенцы. З самага пачатку Яго жыцця паяўляюцца праціўнікі і ворагі: Ірад намагаецца Яго забіць; старазапаветныя вучоныя не хочуць Яго прызнаць за абяцанага Месію. Усё Яго прабыванне на зямлі – гэта бясконцыя пратэсты, нападкі, пераследы, якія закончыліся ўкрыжаваннем на Галгофе.

Але ці на гэтым ужо канец? О, не. Менавіта цяпер хачу цалкам праясніць гэты прадказаны Сімеонам «знак супраціву» адносна Хрыста.

І зноў, калі гаворка ідзе пра «вялікіх гэтага свету»: як толькі праціўнікі расправяцца з імі, а часам нават заб`юць, нападкі пасля іх смерці спыняюцца, а самі яны перастаюць быць знакам супраціву, бо няма сэнсу і патрэбы змагацца з мёртвымі.

А наколькі ж іначай выглядае ўсё ў адносінах да Езуса. Здавалася б, што пасля ўкрыжавання Езуса на Галгофе і пасля таго, як Яго цела было пакладзена ў апячатаную і прываленую каменем грабніцу, перастане Ён быць для ворагаў знакам супраціву, улічваючы тое, што з мёртвымі няма сэнсу змагацца.

Але не. Не пакідаюць Яго ў спакоі і пасля смерці, не перастаюць з Ім змагацца; час ад часу паяўляюцца такія, што нават хацелі б паўтарыць сцэну з Галгофы. Вось мінае ўжо дваццаць стагоддзяў, а Езус надалей для многіх ёсць знакам супраціву. Дастаткова перагартаць гісторыю Хрысціянскага Касцёла, які менавіта абвяшчае Езуса як Уцелаўлёнае Слова, каб пераканацца ў няспынным змаганні з Ім.

Як і чым гэта растлумачыць? З «вялікімі гэтага свету», якія ўжо памерлі, ніхто не змагаецца, а чаму і сёння хапае праціўнікаў і ворагаў у Езуса, забітага амаль дзве тысячы гадоў таму?

Трапна на такое пытанне адказаў менавіта адзін з вялікіх гэтага свету, пераможаны праціўнікамі і сасланы чакаць смерці ў адзіноце на бязлюдным востраве: «Вялікія гэтага свету – гэта толькі людзі смяротныя, а таму і іх праціўнікі дзейнічаюць супраць іх, пакуль яны існуюць, а з моманту іх смерці пакідаюць іх у спакоі.

Зусім іначай адбываецца ў выпадку з Езусам. Ён быў знакам супраціву пры жыцці на зямлі, але застаецца такім самым знакам супраціву і пасля Сваёй смерці на Галгофе. А гэта менавіта пацвярджае, што Ён не з'яўляецца звычайным смяротным чалавекам, але і пасля крыжовай смерці праз Сваё змёртвыхпаўстанне Ён – заўсёды жывы як Уцелаўлёнае Слова, як Сын Божы.

Дарагія ў Езусе Хрысце - Пану!

Замілавана ўглядваючыся ў Бэтлеемскую стаенку, пакорна і з пашанаю схілім нашыя галовы перад Дзіцяткам Езус, і ў працівагу тым, для каго Яно з'яўляецца знакам супраціву, вызнаем непарушную нашую веру ў гэтае адвечнае Уцелаўлёнае Слова, Якое прыйшло на свет, каб здзейсніць справу адкуплення роду людскога і паяднаць людзей з Богам.

Няхай паўната благаслаўлення Уцелаўлёнага Слова сыдзе на вас напрыканцы старога і на пачатку Новага Года.

***Кардынал Казімір Свёнтэк,***
*Арцыбіскуп, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі,*
*Апостальскі Адміністратар Пінскай дыяцэзіі*

# List Pasterski na Boże Narodzenie Roku Pańskiego 1998

"Oto ten przeznaczony jest ... na znak,
któremu sprzeciwiać się będą".
/Łk 2,37/

Gromadząc się przy stajence Betlejemskiej i uwielbiając złożone we żłobie ubożuchne niemowlę, postarajmy się głębiej wniknąć w na pierwsze odczucie bardzo dziwne proroctwo, wypowiedziane przez Symeona, kiedy nieco później Józef i Maryja wnosili to Dziecię do świątyni, aby postąpić z Nim według zwyczaju prawa:

"Oto Ten przeznaczony jest ... na znak, któremu sprzeciwiać się będą".

Jak to? To dziecię Jezus, które przyszło na świat dla uszczęśliwienia ludzi przez ich odkupienie, ma się stać dla nich znakiem sprzeciwu?

A jednak tak. Jeruzalem, lud wybrany przez Boga, jeszcze za życia Jezusa sprzeciwił się Mu i podniósł ręce, by Go ukrzyżować. A potem Rzym, ówczesny władca świata, przedłużył ten znak sprzeciwu i dokonał krwawych prześladowań Jego wyznawców. I ten sprzeciw podjęły następne pokolenia w następnych wiekach i tak ma być do końca świata.

Zastanówmy się nad tym dziwnym zjawiskiem w dziejach ludzkości.

A najpierw spójrzmy na "możnych tego świata". Człowiek, który podniósł się ponad zwykły, przeciętny poziom ludzi, czy to dzięki wielkości swego umysłu, czy też potędze zdobytej władzy, natrafia na opór i sprzeciw zwalczających go przeciwników. Zawsze znajdują się tacy, którzy na różny sposób starają się pomniejszyć, poniżyć, a nawet obalić wielkich tego świata. Dziwne to, ale nieraz dowodem wielkości człowieka staje się fakt sprzeciwu i walki wobec niego. Po liczbie przeciwników i sile ich sprzeciwu można nieraz wnioskować o takiego, czy innego rodzaju wielkości człowieka.

A teraz spójrzmy na to Dziecię w stajence Betlejemskiej. Od zarania Jego życia powstają przeciwnicy, wrogowie. Oto Herod usiłuje Je zabić. Oto uczeni starozakonni nie chcą Je uznać za obiecanego Mesjasza. Cały Jego pobyt na ziemi to ciągłe sprzeciwy, napaści, prześladowania, zakończone ukrzyżowaniem na Golgocie.

Lecz czy na tym koniec? O, nie. Właśnie teraz chcę w pełni naświetlić ten przepowiedziany przez Symeona "znak sprzeciwu" wobec Jezusa.

I znowu, gdy chodzi o "możnych tego świata", skoro przeciwnicy rozprawią się z nimi, nieraz nawet uśmiercą, ustają po ich śmierci napady, przestają być znakiem sprzeciwu, bo nie ma racji i potrzeby walczyć z martwymi.

A jakże inaczej jest w ustosunkowaniu się do Jezusa. Zdawałoby się, że po ukrzyżowaniu Jezusa na Golgocie i złożeniu Jego ciała w opieczętowanym i przywalonym głazem grobie przestanie on być dla przeciwników znakiem sprzeciwu, w myśl zasady, że z martwymi już się nie walczy.

Lecz nie. Nie zostawiają Go w spokoju i po śmierci nie zaprzestają walki z nim, raz po raz pojawiają się tacy, którzy chcieliby nawet ponowić scenę z Golgoty. Oto mija już dwadzieścia wieków, a Jezus ciągle jest dla wielu znakiem sprzeciwu. Wystarczy przeglądnąć historię Kościoła Chrześcijańskiego, który właśnie głosi Jezusa jako Słowo Wcielone, by stwierdzić nieustanną z Nim walkę.

Jak i czym to wytłumaczyć? Z nieżyjącymi "możnymi tego świata" nikt nie walczy, a dlaczego i dzisiaj ciągle nie brakuje przeciwników, wrogów, prześladowców Jezusa, uśmierconego prawie dwa tysiące lat temu?

Trafnie na to odpowiedział właśnie jeden z wielkich tego świata, pokonany przez przeciwników i umieszczony do śmierci w odosobnieniu na bezludnej wyspie:

Możni tego świata są tylko ludźmi śmiertelnymi, a więc i ich przeciwnicy działają przeciwko nim dopóki oni istnieją, a z chwilą ich śmierci, dają im spokój.

Co innego dzieje się z Jezusem. On był znakiem sprzeciwu za życia na ziemi, ale pozostaje takim samym znakiem sprzeciwu i po swojej śmierci na Golgocie. A to właśnie potwierdza, że On nie jest zwykłym śmiertelnym człowiekiem, lecz jest i po śmierci krzyżowej przez swe zmartwychwstanie ciągle żywym, jako Słowo Wcielone, jako Syn Boży.

Drodzy w Jezusie Chrystusie Panu!

Zapatrzeni na stajenkę Betlejemską kornie i z uwielbieniem schylmy nasze głowy przed Dzieciątkiem Jezus i w przeciwieństwie do tych, dla których jest Ono znakiem sprzeciwu, wyznajmy niezachwianą naszą wiarę w to odwieczne Słowo Wcielone, które przyszło na świat, by dokonać dzieła odkupienia rodzaju ludzkiego i pojednania ludzi z Bogiem.

Niech pełnia błogosławieństwa Słowa Wcielonego spłynie na was w końcu Starego i na początku Nowego Roku.

***Kazimierz Kardynał Świątek***
*Arcybiskup Metropolita mińsko-mohylewski*
*Administrator Apostolski Diecezji pińskiej*



было".

Асаблівую нагоду для новай евангелізацыі Ян Павел II убачыў у юбілеі 2000-годдзя хрысціянства. З яго слоў пульсуе ўсведамленне пераломнага моманту гісторыі, які перажывае свет, а таксама вера ў тое, што справа навяртання і новая евангелізацыя могуць падрыхтаваць "вясну Касцёла". "Калі мы павярхоўна глядзім на сучасны свет, нас уражвае мноства негатыўных фактаў ходна для таго, каб падчас Вялікага Юбілею мы маглі быць "калі не зусім паяднаныя, то, прынамсі, нашмат бліжэйшыя да перамогі падзелаў". Таксама Папа кажа аб грахах, звязаных з ужываннем хрысціянамі "метадаў, пазначаных неталерантнасцю і, нават, гвалтам", рэлігійнай абыякавасцю, уласцівай многім "веруючым паводле метрыкі", што прыводзіць да сітуацыі, калі многія сучасныя людзі жывуць так, нібы

# ПАПА НОВАЙ ЕВАНГЕЛІЗАЦЫІ:

## *20 год пантыфікату Яна Паўла II*

Тэрмін "новая евангелізацыя" з'яўляецца адным з ключавых лозунгаў пантыфіката Яна Паўла II. Найбольш выразна ён быў сфармуляваны ў энцыкліцы *Redemptoris Missio*. У ёй Папа адназначна кажа, што, акрамя місійных краінаў і тых, дзе касцёльныя структуры вядуць актыўнае душпастырства, у шматлікіх выпадках цэлыя краіны ці групы ахрышчаных людзей згубілі сэнс жывой веры. У гэтай з'яве Папа бачыць адзін з важнейшых выклікаў, які цяпер стаіць перад Касцёлам. Таму ён заклікае ўсю касцёльную супольнасць з яшчэ большай стараннасцю абвяшчаць Евангелле, бо гэта – на думку Папы – адзіная магчымасць перамагчы глыбокі крызіс уласнай тоеснасці, характэрны для сучаснага чалавека.

"Мабыць, адна з найбольш выразных слабасцяў сучаснай цывілізацыі заключаецца ў неадэкватным разуменні чалавека, – адзначыў Ян Павел II на самым пачатку пантыфікату ў прамове да епіскапату Лацінскай Амерыкі. – Несумненна, што ў наш час – перыяд гуманізму і антрапацэнтрызму – пра гэта сказана і напісана вельмі шмат. Аднак, як ні парадаксальна, гэта таксама час вялікай занепакоенасці чалавека аб ягонай тоеснасці і ўласным прызначэнні; гэта час прыніжэння чалавека ў такой вялікай ступені, якой у ранейшыя часы нельга было сабе ўявіць; гэта час зняважання чалавечых каштоўнасцяў, якога яшчэ ніколі не (...) Між тым, напярэдадні трэцяга тысячагоддзя Бог рыхтуе вялікую вясну хрысціянства, пачатак якой можна ўжо ўбачыць (...) Хрысціянская надзея падтрымлівае наш актыўны ўдзел у новай евангелізацыі". Папа, аднак, падкрэслівае, што паміж душпастырскай апекай, місійнай дзейнасцю і новай евангелізацыяй не павінна стварацца выразных бар'ераў ці перашкодаў. Гэтыя формы дзейнасці Касцёла ўзаемазалежныя і іх трэба весці адначасна.

Свету, які на працягу ўжо некалькіх стагоддзяў страчвае веру ў развіццё гісторыі, якая яго жывіць і не ўскладае надзеі на будучыню, Ян Павел II абвяшчае праўду пра сэнс гісторыі, якая знойдзе сваю паўнату ў Езусе Хрысце.

"Напрыканцы другога тысячагоддзя хрысціянства, – адзначае Ян Павел II, – слушным з'яўляецца тое, што Касцёл больш свядома ўзяў на сябе цяжар граху сваіх сыноў, памятаючы пра ўсе выпадкі мінулага, калі аддаляліся яны ад духа Хрыстовага і ад Яго Евангелля; замест сведчання жыцця, натхнёнага каштоўнасцямі веры, яны паказалі свету прыклады мыслення і ўчынкаў, якія па сутнасці былі крыніцай антысведчання і згаршэння" (ТМА 33). Прапанаваны Янам Паўлам II рахунак сумлення павінен асабліва датычыць тых грахоў, якія ў мінулым нішчылі еднасць Касцёла і сталі прычынай шматлікіх падзелаў. Гэта неабБога няма, калі зносяцца многія праявы сацыяльнай несправядлівасці. Нарэшце, Ян Павел II заклікае Касцёл да рахунку сумлення з рэалізацыі пастаноў Другога Ватыканскага Сабору.

Важным матывам новай евангелізацыі з'яўляецца заклік да сведчання і асабістай святасці. Толькі праз сведчанне жыцця, абвешчанае словам і ўчынкам, можна аднавіць наш свет.

Евангельскую радыкальнасць жыцця святароў Ян Павел II разглядае як аснову плённасці новай евангелізацыі. Ён засцерагае перад святарамі, якія могуць быць крыніцай крызісу ў Касцёле. "Найпрасцей перамагчы Касцёл пры дапамозе святароў", – казаў папа духавенству ў Чэнстахове ў 1979г.

Святы Айцец звяртае ўвагу на неабходнасць карыстацца новымі спосабамі і сродкамі евангелізацыі. Яна павінна весціся "з новым запалам, новымі метадамі і з выкарыстаннем новых сродкаў выяўлення" (Veritatis Splendor, 106).

І, нарэшце, апошні матыў навучання Яна Паўла II на тэму новай евангелізацыі: новая евангелізацыя з'яўляецца справай Духа Святога і выклікам, на які сучасны Касцёл павінен адказаць. Таму Папа ставіць перад светам і Касцёлам новыя патрабаванні. Іх рэалізацыя – гэта працэс глыбокага асабістага навяртання і адновы духоўнага жыцця ў заснулым і падзеленым шматлікімі гістарычнымі сваркамі хрысціянскім свеце.

# 40-гадовы юбілей святарства а. Аляксандра Надсана

“Дастатковасць мая ад Бога” – гэтыя словы з Другога паслання Паўла да Карынцянаў айцец Аляксандар Надсан – вядомы рэлігійны і грамадскі дзеяч беларускага замежжа прыгадаў 22 лістапада на ўрачыстай Святой Літургіі ў касцёле Святога Роха ў Мінску, якую ён адправіў у саслужэнні святароў візантыйскага і лацінскага абраду. У казанні юбі-



ляр падкрэсліў, што сваім жыццём як каталіцкі святар і беларус ён заўсёды стараўся служыць Богу і Айчыне. А. Аляксандр з’яўляецца рэктарам Беларускай каталіцкай місіі ў Лондане і Апостальскім візітатарам для беларусаў-католікаў у замежжы. Шмат гадоў ён займаецца перакладамі багаслужбовых тэкстаў для грэка-каталіцкай Царквы, прыкладае вялікія намаганні для арганізацыі дабрачыннай дапамогі дзецям, пацярпелым ад Чарнобыльскай аварыі. 10 сакавіка 1990 года а. Надсан служыў першую ў Мінску пасля ліквідацыі Уніяцкай Царквы ў 1839г. Святую Літургію ва ўсходнім абрадзе.

Беларускую каталіцкую місію ў Лондане заснаваў ў 1947 г. будучы біскуп, а тады яшчэ святар Часлаў Сіповіч. Місія была створана для нашых суродзічаў, якія пасля вайны апынуліся на чужыне. З гісторыяй місіі, якой першапачаткова апекаваліся айцы-марыяне (адкуль цяперашняя назва «Marian House»), звязаныя лёсы нашых вядомых святароў – айцоў Язэпа Германовіча, Тамаша Падзявы, архімандрыта Льва Гарошкі. Лонданская місія, перадусім дзякуючы нястомнай працы айца Часлава Сіповіча, стала адным з важнейшых беларускіх рэлігійных і культурных цэнтраў на эміграцыі. У царкве св. Пятра і Паўла, якая знаходзіцца ў доме місіі ўсе гэтыя гады штодня адпраўляецца Св. Літургія за беларускі народ. У 40-50-я гады місія стала цэнтрам дзейнасці хрысціянскага таварыства інтэлектуалаў “Рунь”, якое ўнесла свой сціплы, алеварты прызнання ўклад у даследванні беларускае культуры і духоўнасці. З 1967 г. тут аднавіў сваё жыццё рэлігійны часопіс “Божым шляхам”. У 70-я гады пры місіі быў створаны значны і аўтарытэтны культурны асяродак, які лучыць у сабе адзіны на чужыне Беларускі музей і найбуйнейшую па-за межамі Бацькаўшчыны Беларускую бібліятэку імя Ф. Скарыны. У свой час тут была і школа для дзяцей, якая насіла імя Кірылы Тураўскага, дзе навучанне вялося па-беларуску.

Сёння, дзякуючы дапамозе місіі, некалькі беларускіх студэнтаў маюць магчымасць вучыцца ў каталіцкіх навучальных установах Лондана.

***Аляксандр Солад***



# Новы касцёл у Мяжанах



28 лістапада кардынал Казімір Свёнтэк пасвяціў касцёл Маці Божай Анёльскай у в.Мяжаны Браслаўскага раёна (пробашч кс.Лешак Вітвіцкі, сальватарыянін). Новая святыня пабудавана з цэглы паводле выяваў старога драўлянага касцёла (спалены ў 1982г.), які быў ўзведзены ў стылі традыцыйнага народнага дойлідства.

***Фота А.Клешчука***

## Расія:
## юрыст заклікае ігнараваць закон аб веравызнаннях

Да ігнаравання закону аб свабодзе сумлення і рэлігійных таварыствах заклікаў юрыст Леў Левінсон, адказны сакратар грамадскага камітэту абароны свабоды сумлення ў Расіі. Падчас падрыхтоўкі скаргаў, скіраваных ў Канстытуцыйны суд Расійскай Федэрацыі, ён заявіў, што "ў цяперашняй сітуацыі гэты дакумент не патрэбны".

На думку Левінсона, трэба перakанаць усе рэлігійныя інстытуцыі, якія апынуліся ў ліку нетрадыцыйных вызнанняў (паводле вызначэння закону), ігнараваць гэты дакумент і карыстацца законамі "Аб грамадскіх аб'яднаннях" і "Аб некамерцыйных арганізацыях". "Няхай гэты закон (аб веравызнаннях) памрэ натуральнай смерцю", – сказаў Левінсон.

Закон аб свабодзе сумлення і рэлігійных таварыствах уступіў у сілу 1 кастрычніка мінулага года. Ён замяніў папярэдні закон ад 25 кастрычніка 1990, які, паводле агульнага прызнання большасці неправаслаўных цэркваў і рэлігійных супольнасцяў, быў больш дэмакратычным і зрабіў магчымай нармальную дзейнасць усіх рэлігійных супольнасцяў.

Новыя правілы ўводзяць абавязковы парадак перарэгістрацыі ўсіх існуючых у Расіі рэлігійных арганізацый (яны павінны існаваць на тэрыторыі краіны не меней за пятнаццаць гадоў). Гэтае патрабаванне ставіць у цяжкае становішча каталіцкі Касцёл, які, хоць і існуе ў Расіі некалькі стагоддзяў, у камуністычныя часы не быў афіцыйна зарэгістраваны і можа мець вялікія цяжкасці ў зацвярджэнні свайго статусу.

## Кітай:
## Новыя арышты католікаў

Фундацыя імя кардынала Куна з сядзібай ў ЗША паведаміла пра арышт каталіцкага святара, законніцы і шматлікіх вернікаў падпольнага каталіцкага Касцёла ў Кітаі падчас набажэнстваў у вёсках Наньён, Кванкін і Дanглу (150 км ад Пекіна).

У адной з іх міліцыя арыштавала кс.Вэй Джынкуна і 100 вернікаў; некаторыя з іх былі вызваленыя пасля выплаты штрафу, роўнага 200 далярам.

У іншай вёсцы святар здолеў уцячы, затое падчас міліцэйскай аблавы было арыштавана каля 1000 вернікаў. Законніцу арыштавалі падчас навучання дзяцей рэлігіі. І яна, і бацькі дзяцей павінны заплаціць штраф.

## Швейцарыя:
## каля 120 выпадкаў легальнай эўтаназіі штогод

Кожны год у Швейцарыі рэгіструецца каля 120 выпадкаў легальнага асіставання лекараў пры самагубстве пацыентаў. Прадстаўнік арганізацыі "Exit" на XII сусветным кангрэсе па эўтаназіі ў Цюрыху паведаміў, што каля 60% пацыентаў, якія звярнуліся ў "Exit" па дапамогу ў самазабойстве, з'яўляліся хворымі на рак, 15% пакутавалі ад неўралагічных хваробаў, 10% – ад хваробаў сэрца, сасудзістай сістэмы і захворванняў касцей, а 5% былі хворымі на СНІД.

## Германія:
## канцлер і сем міністраў не прысягалі Богу

Новы нямецкі канцлер Герхард Шродэр і сем міністраў новага ўраду гэтай краіны, прысягаючы, не вымавілі канцовай формулы прысягі: "Няхай дапаможа мне Бог". Прысягу новых міністраў прымаў новы старшыня Бундэстага Вольфганг Цірштэ.

## Індыя:
## напад на каталіцкі кляштар

У штаце Пенджаб на поўначы Індыі ўчынены напад на каталіцкі кляштар. Невядомыя асобы ўварваліся ў касцёл пры кляштары св. Францішка ў Картапуры, скралі гукаўзмацняльную апаратуру і ўламіліся ў табэрнакулюм – паведаміла 21 кастрычніка мясцовая паліцыя. Прадстаўнік паліцыі лічыць, што гэта быў хутчэй за ўсё рабаўніцкі напад, не скіраваны супраць рэлігіі, якую вызнаюць законнікі.

Зверхнікі каталіцкага Касцёла Індыі звярнуліся да ўладаў з просьбай абараніць хрысціянаў ад несупыннага гвалту. Канферэнцыя індыйскіх біскупаў уважае, што серыя нападаў, якія адбыліся апошнім часам, была ўчынена са згоды праварадыкальных індуісцкіх партый.

## ЗША:
## санкцыі супраць краін, якія парушаюць рэлігійную свабоду

Новы закон, прыняты Кангрэсам Злучаных Штатаў, прадугледжвае эканамічныя санкцыі супраць краін, на тэрыторыі якіх чыніцца рэлігійны пераслед.

Падпісаны 27 кастрычніка Білам Клінтанам закон дае магчымасць прэзідэнту ЗША ужыць восем розных дыпламатычных мер і сем тыпаў эканамічных санкцый супраць урадаў, якія чыняць рэлігійны пераслед.

## Чылі:
## Касцёл аб справе Пінaчэта

Касцёл у Чылі пратэстуе супраць магчымага суда над былым дыктатарам генералам Аўгуста Пінaчэтам. Арцыбіскуп Санцьяга-дэ-Чылі Франсіско Хав'ер Эразурыз заклікаў да зразумення і прабачэння. У сітуацыі грамадскай напружанасці, якая паўстала ў Чылі ў сувязі са справай генерала Пінaчэта, арцыбіскуп падкрэсліў: "Касцёл моліцца аб ласцы прабачэння і дары праўдзівасці для ўсіх". Аднак мітрапаліт Мадрыда кардынал Антоніо Марыя Рука Варэла выказаўся за тое, каб Пінaчэта судзіў міжнародны трыбунал. У інтэрв'ю мадрыдскай газеце "El Pais" кардынал сказаў, што "кожны, хто ўчыніў цяжкае злачынства, павінен стаць за яго перад судом".

Нагадаем, што Рада Міністраў Іспаніі 6 лістапада запатрабавала выдаць Піначэта, абвінавачваючы яго ў злачынствах супраць чалавецтва, тэрарызме і катаванні вязняў, у тым ліку і іспанскіх грамадзянаў. Сам Піначэт лічыць, што абвінавачванні супраць яго беспадстаўныя, і ён будзе змагацца да канца. Арыштаваны 16 лістапада Скотланд-Ярдам ў Лондане, дзе ён знаходзіўся на лячэнні, і абвінавачаны ў злачынствах, учыненых у 1973-83гг., генерал Піначэт чакае вырашэння свайго лёсу.

Лічыцца, што за часы ягонай дыктатуры ў Чылі па палітычных матывах было пакарана смерцю каля 1000 чалавек.

## Рым: інаўгурацыя Сіноду біскупаў Акіяніі

22 лістапада ў Рыме адбылося ўрачыстае адкрыццё Сіноду біскупаў Акіяніі пад дэвізам "Езус Хрыстус і народы Акіяніі. Ісці Ягоным шляхам, абвяшчаць Ягоную праўду, жыць Ягоным жыццём". Упершыню разам сустрэліся ўсе біскупы гэтага рэгіёна, у склад якога ўваходзяць 24 малыя астраўныя дзяржавы і Аўстралія. Нягледзячы на тое, што даўней (евангелізацыя Акеаніі распачалася 200 гадоў таму) тут пераважала пратэстанцтва, сёння ў Аўстраліі і Акіяніі налічваецца 8 млн. каталікаў пры 29 млн. чалавек насельніцтва. Адной з тэмаў паседжанняў будуць розныя мадэлі інкультурацыі. Удзельнікі Сіноду павінны вызначыцца ў пытаннях па абароне правоў карэннага насельніцтва, ядзерных выпрабаванняў у рэгіёне, выкарыстання прыродных рэсурсаў, праблемы даўгавой кабалы, у якой знаходзяцца найбяднейшыя краіны Акіяніі. Літургію, узбагачаную элементамі традыцыйнай культуры народаў Акіяніі, адпраўляў Папа Ян Павел II разам са 154 удзельнікамі Сіноду. Працэсію з дарамі ўзначальваў у танцы босы ваяр. У знак пашаны канцэлебрансам былі паднесеныя вянкі з кветак, а Папе яшчэ і мадэль лодкі – сімвал Касцёла. Прашэнні Малітвы Верных з вуснаў святароў, законнікаў і свецкіх у рознакаляровых строях гучалі на маоры, піджыне, мовах Самоа, Тонга і Фіджы. У казанні Святы Айцец выказаў спадзяванне, што спатканне біскупаў дасць новы імпульс абвяшчэнню Евангелля сярод розных культур, традыцый у "цудоўнай разнастайнасці ўсіх народаў". Сінод, у якім удзельнічаюць 82 біскупы з Аўстраліі і Акіяніі, працягнецца да 12 снежня.

## Апостальская Сталіца пратэстуе супраць гвалту над хрысціянамі ў Інданезіі

23 лістапада прэс-сакратар Ватыкана Жаакін Навара-Вальса выразіў шкадаванне з прычыны гвалту над хрысціянамі ў Інданезіі. У выніку вулічных сутыкненняў паміж групамі мусульманаў і каталікаў 22 лістапада ў сталіцы Інданезіі Джакарце загінула не менш як 6 чалавек. Некалькі тысяч мусульманаў заатакавалі будынак побач з касцёлам у кітайскім квартале Джакарты, дзе знаходзілася казіно, якое, на іх думку, наведвалі каталікі. У часе сутыкненняў у старой частцы Джакарты гарэлі касцёлы, і раз'юшаны натоўп забіваў каталікаў на вуліцах. Паліцыя рабіла папераджальныя стрэлы, але, як сцвярджаюць сведкі, не супрацьдзейнічала паленню касцёлаў і гвалту.

Кожны дзесяты жыхар мусульманскай Інданезіі з'яўляецца хрысціянінам. Падчас лістападаўскіх антыўрадавых выступленняў у Джакарце загінула каля 14 чалавек.

## Даклад ААН: 20% багатага насельніцтва карыстаецца 87% усіх даброт аў

Даклад, прысвечаны тэме развіцця і абвешчаны Фондам ААН па справах Развіцця. Ён датычыць "умоў паляпшэння жыцця" ў свеце, а таксама "вялікай няроўнасці ў выкарыстанні з развіцця і спажыванні". Як сцвярджаюць статыстычныя дадзеныя, 20% багатага насельніцтва спажывае 87% усялякіх даброт аў.

Адсюль вынікае, што 225 самых багатых людзей валодаюць маёмасцю коштам 1015 млн. дал. Гэта адпавядае даходам 2,5 млрд. жыхароў Трэцяга свету (47% чалавецтва). 1,3 млрд. чалавек зарабляюць менш за 1 долар штодзённа. У Еўропе і ЗША на касметыку выдаткоўваецца 12 млрд. долараў, а на марожанае 5 млрд.; еўрапейцы і амерыканцы расходуюць 17 млрд дал. на ежу для сабак. Пры гэтым усяго 6 млрд. долараў хапіла б, каб забяспечыць элементарнай адукацыяй насельніцтва краінаў Трэцяга свету.

## В'етнам: Катэхізіс пад цэнзурай

У апошнім в'етнамскім выданні "Катэхізіса каталіцкага Касцёла" (1998г.) адсутнічае 34 ўрыўкі. Сярод іх і тыя, што асуджалі атэістычную і таталітарную ідэалогію. Тры тысячы пакупнікоў выдання змаглі даведацца пра ўмяшанне цэнзуры дзякуючы распаўсюджвальнікам Катэхізіса, у які яны ўласнаручна дадалі выкінутыя фрагменты. Нягледзячы на дзяржаўны кантроль, катэхізіс ў В'етнаме з'явіўся ў 1993 і 1995 гадах.

*KAI*

# Алойзіе Стэпінац і Эдыта Штэйн

## Нязломны іерарх

Падчас свайго падарожжа ў Харватыю Ян Павел II абвясціў благаслаўлёным кардынала Алойзія Стэпінаца – вядомага іерарха каталіцкага Касцёла, мучаніка за веру, якога ў Харватыі лічаць нацыянальным героем.

Алойзіе Стэпінац нарадзіўся ў 1898 годзе ў вёсцы Брэзарыч, парафіі Крашыч, непадалёк ад Заграба, пятым з васьмі дзяцей. Пасля заканчэння класічнай гімназіі у Заграбе ў 1916 годзе ён хацеў паступіць у духоўную семінарыю, але пачалася першая сусветная вайна і юнак апынуўся на італьянскім фронце, дзе патрапіў у палон. Пасля вайны вярнуўся на радзіму і пачаў вучыцца ў земляробчай акадэміі ў Заграбе, а ў1924 годзе перавёўся на тэалогію. Спачатку, кіруючыся парадамі бацькі, думаў ажаніцца, але вырашыў стаць святаром і ў 1930г., яшчэ падчас навучання ў Рыме (1926 -1931), атрымаў святарскія пасвячэнні. Ён меў навуковыя ступені доктара філасофіі і тэалогіі.

З самага пачатку свайго святарскага служэння быў супрацоўнікам заграбскага арцыбіскупа Антуна Баўэра. Па ягонай просьбе ў 1931 г. Стэпінац заснаваў архідыяцэзіяльны "Карытас". Пасля смерці арцыбіскупа Баўэра ў 1937 годзе Стэпінац стаў ягоным пераемнікам. Гэтую пасаду ён займаў да сваёй смерці, хоць з верасня 1946 г. практычна не мог кіраваць дыяцэзіяй, бо быў арыштаваны камуністамі. У 1953 г. папа Пій XII мянаваў яго кардыналам.

Алойзіе Стэпінац быў чалавекам незвычайнай адвагі, паслядоўнасці і непахіснай веры. Ён не прымаў нацызму і камунізму, з недаверам ставіўся да заходніх дэмакратыяў, быў непрымірымым ворагам масонства. З непрыхаванай радасцю Алойзіе Стэпінац вітаў стварэнне марыянеткавай харвацкай дзяржавы пад пратэктаратам Райху. На жаль, арцыбіскуп памыляўся ў сваіх спадзяваннях на незалежнасць Харватыі. У цыркуляры ад 28 красавіка 1941г. ён пісаў да духавенства сваёй дыяцэзіі: *"І хто можа кінуць нам папрок, што мы, пастыры, далучаемся да нацыянальнай радасці і ўзрушэння, звяртаючыся да Божай Велічы з глыбокай узрушанасцю і сардэчнай удзячнасцю? (...) Бо лёгка распазнаць руку Бога ў Ягонай справе"*. Хутка, аднак, біскуп пераканаўся, што радасць ягоная была заўчаснай. Адразу ж пасля прыйсця да ўлады усташаўскага рэжыму ў Харватыі распачаўся тэрор. Спачатку заграбскі мітрапаліт лічыў, што злачынствы супраць габрэяў і сербаў адбываюцца без ведама ўладаў. Да вясны 1942 г. ён пратэставаў толькі ў лістах, скіраваных да дзяржаўных уладаў. З мая таго ж года ён пачаў крытыкаваць харвацкую дзяржаву публічна, падчас казанняў у заграбскай катэдры. У казанні ад 14 сакавіка 1943 года ён гаварыў: *"Кожны чалавек, нягледзячы на тое, да якой нацыі ці расы ён належыць, ( ... ) нясе на сабе адбітак Бога-Творцы і мае неад'емныя правы, якіх ніводная чалавечая ўлада не можа яго пазбавіць або абмежаваць"*. Незалежна ад крытыкі, харвацкі іерарх стараўся па меры сваіх магчымасцяў ратаваць пераследаваных, нягледзячы на іх рэлігійныя перакананні. З дапамогай Ватыкану ён ўратаваў больш за паўтысячы сербаў і габрэяў з мяшаных шлюбаў. Адважны іерарх дамогся амністыі для многіх харватаў, якім былі вынесены смяротны вырак па палітычных прычынах. Арцыбіскуп схаваў у касцёльных установах 60 пенсіянераў з яўрэйскага дому састарэлых, якія дзякуючы гэтаму перажылі вайну. Па ягоным даручэнні "Карытас" матэрыяльна забяспечыў больш чым тысячу дзяцей, якія засталіся сіротамі пасля ўсташаўскіх «чыстак». Стэпінац спрычыніўся таксама да ратавання жыцця пераследаванага праваслаўнага духавенства, габрэйскага рабіна і групы славенскіх каталіцкіх святароў. (За ратаванне габрэяў Інстытут Памяці Яд Вашэм у Ерузалеме вырашыў надаць кардыналу тытул "Праведніка народаў свету".)

Каб ратаваць праваслаўных сербаў, якім пагражала небяспека рэпрэсіяў, Стэпінац згаджаўся на прынясце імі каталіцкага хросту, што потым было адным з найважнейшых абвінавачванняў супраць кардынала.

Пасля вайны, калі да ўлады прыйшлі камуністы, арцыбіскуп Стэпінац адважна запярэчыў пераследу каталіцкага Касцёла. Ён быў ініцыятарам пастырскага ліста каталіцкіх біскупаў Югаславіі ад 22 верасня 1945 г., у якім рашуча крытыкаваліся ўсе дзеянні ўладаў у дачыненні да Касцёла. У ім таксама аспрэчваліся закіды камуністаў супраць Касцёла і давалася ацэнка новага рэжыму, які, паводле біскупаў, увасабляў "бязбожны дух матэрыялізму, ад якога людзі не могуць чакаць нічога добрага".

Арцыбіскуп Стэпінац быў арыштаваны 18 верасня 1946 г. На сфабрыкаваным працэсе камуністы высунулі супраць яго абвінавачванні ў ваенных злачынствах, саўдзеле ў знішчэнні сербаў, гвалтоўным навязванні сваіх перакананняў іншым, змове супраць новай улады. Стэпінац не зламаўся як шмат хто ў той час. Ён да канца захаваў годнасць і непахісны аўтарытэт. У сваёй прамове на судзе (11 кастрычніка 1946г.) ён сказаў: *"Абвінавачаны заграбскі арцыбіскуп зможа за свае перакананні не толькі пацярпець, але і памерці"*. Пасля пяці гадоў цяжкага зняволення ў Лепаглаве (каля 70 км ад Заграба ) да самай смерці, ён знаходзіўся пад хатнім арыштам у сваёй роднай вёсцы. Памёр 10 лютага 1960г. ад цяжкай хваробы, якую прыдбаў у вязніцы.

Веліч і ролю нябожчыка адзначыў папа Ян XXIII, які 17 лютага 1960г. асабіста адправіў у базыліцы св. Пятра Святую Імшу за супакой спачыўшага волата духа.

Ян Павел II, абвяшчаючы ў нацыянальным санктуарыі Марыя Быстрыца ў Харватыі беатыфікацыю мужнага вызнаўцы веры, сказаў: *"Благаслаўлёны Алойзіе Стэпінац пакінуў народу штосьці накшталт компаса, які дапамагае арыентавацца. Ягонымі асноўнымі арыенцірамі былі вера ў Бога, павага да чалавека, любоў да ўсіх, якая праяўляецца ў прабачэнні, еднасць з Касцёлам пад кіраўніцтвам наступніка святога Пятра. Ён выдатна ведаў, што праўда не можа быць прадметам гандлю і не падлягае перамовам. Таму ён вытрываў у цярпеннях, каб не здрадзіць уласнаму сумленню і слову, дадзенаму Хрысту і Касцёлу"*.

***Паводле "Tygodnika powszechnego"***



**Восень прайшла пад знакам двух асобаў: харвацкага кардынала *Алойзія Стэпінаца*, абвешчанага благаслаўлёным, і кармеліткі *Тэрэсы-Бенядзікты* ад Крыжа (Эдыты Штэйн), кананізаванай у Рыме. Абое жылі ў адзін час і сталі ахвярамі двух вонкава супрацьлеглых, нават варожых адзін аднаму, але агульных па сваім духу багаборніцтва таталітарных рэжымаў. Цяпер яны стаяць побач – пад адным Крыжам.**

**Яна нарадзілася ў нямецкім горадзе Брэслау (цяпер польскі Вроцлаў) у 1891г. у габрэйскай сям'і. Выйшаўшы з дзіцячага ўзросту, пакінула Сінагогу, бо расчаравалася ў веры прабацькоў. *"Калі ўсе дзяўчаты марылі пра пацалункі* (Kuesserl), *яна марыла асабіста сустрэцца з Гусэрлем"*, – казалі пра яе жартам. Шляхам доўгіх пошукаў праўды прыйшла да Бога. Зайшла ў касцёл і засталася ў Касцёле назаўсёды – філасафам і законніцай. Яна была ўсім чужая: юдэям, бо ахрысцілася; секулярным універсітэцкім колам, бо сярод выкладчыкаў лічылася самай паслядоўнай прыхільніцай каталіцкага светапогляду; нацыстам, бо была перадусім *"жыдоўскай манашкай"*. Самотная, яна належала толькі Яму. Тэрэса-Бенядзікта ад Крыжа – Укрыжаваная.**

## Укрыжаваная

***ФІЛОСАФ З ГЕТЫНГЕНА***

Дзяўчына мела бліскучыя здольнасці, а захапленне філасофіяй адчыніла ёй браму ў лабірынты еўрапейскай думкі і садзейнічала таму, што яна сягнула па-за межы сваёй рэлігіі, сярод якой вырасла. Эдыта стала асістэнтам Эдмунда Гусэрля, бацькі фенеменалогіі. *"Да рэчаў"* – гэткі дэвіз настаўніка прымушаў вучняў суадносіцца з фенменамі, з рэчамі ў тым выглядзе, у якім яны нам дадзеныя. Тут Эдыта сутыкнулася з феноменам веры.

Калі ў 1914г. пачалася вайна, яна адразу завербавалася на фронт сястрой міласэрнасці.

Аднойчы Эдыта зайшла ў касцёл. Яе ўвагу прыцягнула жанчына з гаспадарчай сумкай. Схіліўшыся, жанчына малілася на адной з лавак. *"Гэта было нешта новае. У сінагогу і ў кіркі, якія я наведвала, прыходзілі толькі на набажэнства. Аднак нехта прыйшоў сюды, у пусты касцёл, у віры штодзённых клопатаў, нібы проста паразмаўляць. Я ніколі аб гэтым не забывала"*, – занатавала яна ў дзённіку. Пасля смерці на фронце яе універсітэцкага калегі і сябра Адольфа Райнаха, які незадоўга перад тым разам з жонкай стаў хрысціянінам, Эдыта пісала: *"Гэта была мая першая сустрэча з Крыжом, з той Боскай сілай, якую Крыж дае тым, хто яго нясе. Упершыню мне бачна явіўся Касцёл – народжаны праз Мукі Хрыстовы і паможца смерці. У той момант маё няверʻе абрынулася, юдаізм зблякнуў у маіх вачах, тады як у сэрцы займалася святло Хрыста. Таму, калі я стала карміліткай, дадала да свайго імя слова "Крыж"*.

Можна сказаць, што яна сапраўды вярнулася да вытокаў еўрапейскага філасофствавання – у хрысціянства, якое дало штуршок разумоваму спасціжэнню сусвету. Пазней Габрыэль Марсэль будзе пісаць, што выйсце з экзістэнцыяльнага тупіка – філасофія на каленях.

***КАРМЕЛІТКА***

На Божае Нараджэнне 1922г. Эдыта Штэйн прымае хрост і дадае да свайго імя другое – Тэрэса. Яна вырашае ўступіць у кармеліцкі кляштар, але яшчэ дзесяць гадоў працуе выкладчыцай ў каталіцкай школе. Э.Штэйн жыла амаль па-манаску і выконвала сваё пакліканне ў свеце: перакладала працы св.Фамы і пісала да іх каментары, выкладала да 1933г., пакуль усялякая грамадская праца для габрэяў стала немагчымай. Тады ўжо больш нічога не трымала Тэрэсу ў свеце.

У кляштары па загадзе настаяцеляў яна сістэматызуе сваю асноўную філасофскую працу "Канечная Істота і Вечная Істота". Між тым пераслед габрэяў узмацняўся. Тэрэсу спрабуюць ўратаваць, адправіўшы ў 1938г. разам з сястрой у галандскі кляштар у Эхт. Там яна ў 1939г. піша кнігу пра духоўнасць св.Хуана дэ ля Крус – "Навука Крыжа". У 1942г., калі пачалася масавая дэпартацыя габрэяў на Усход, галандскі епіскапат выступіў з рашучым пратэстам. Лёс Эдыты быў вырашаны: 2 жніўня гестапаўцы з'явіліся ў кляштары, каб забраць "жыдоўскую манашку".

*(Заканчэнне на с. 10)*

## Алойзіе Стэпінац і Эдыта Штэйн

# Укрыжаваная

*(Заканчэнне.*
*Пачатак на с. 11)*

***"ХАДЗЕМ ЖА ЗА НАШ НАРОД!"***

Ахвяра святой Тэрэсы-Бенядзікты ад Крыжа мае некалькі вымярэнняў: па-першае, як габрэйка яна падзяліла пакуты свайго народа ў часе Халакосту; па-другое, сама Эдыта Штэйн была ўпэўнена, што прыносіць сябе ў ахвяру за народ, які не прыняў Месію Езуса. Яе жыццё – гэта сведчанне, што Хрыстус – не толькі цэнтр і падмурак еўрапейскай культуры (у духу якой яна была выхавана), але і спаўненне і вяршыня гісторыі Ізраіля, з якім Эдыта была звязаная па плоці. Эдыта (Юдыта!) пайшла за свой народ. Такое заканчэнне мелі ейныя пошукі ролі і месца жанчыны ў грамадстве XX стагоддзя. Таму кананізацыя манашкі–габрэйкі выклікала незразуменне і пратэст у пэўных колах, у тым ліку і сярод артадаксальнага юдэйства. У гэтым няма нічога дзіўнага, бо *"слова пра крыж для тых, хто гіне – вар'яцтва, а для нас, якія ратуюцца, – сіла Божая* (пар. 1 Кар 1,18). Для нас жыццё і мучаніцтва Эдыты Штэйн – гэта не толькі і не столькі лёс адной з мільёнаў ахвяраў *Шоах*, гэта – прыклад *Scientiae Crucis* – Навукі Крыжа. Яна – жывое сведчанне таго, што *"валадарыць Бог з дрэва Крыжовага"* (з *"Vexilla Regis")*.

– Што з Вамі цяпер будзе? – спытаў габрэйскую манашку адзін з вязняў.

– Дагэтуль я магла маліцца і працаваць, спадзяюся, што змагу маліцца і працаваць надалей.

**Эдыта Штэйн (Тэрэса-Бенядзікта ад Крыжа), замучаная ў Асвенціме паміж 8 і 11 жніўня 1942г., была кананізавана ў Рыме Святым Айцом Янам Паўлам II 11 кастрычніка 1998г.**

***Сяргей Стасевіч***



**Брама канцлагера Асвенцім-Біркенау.**

**Падчас навукова-практычнага семінара "Цяжкасці і магчымасці перадачы евангельскіх падзеяў", арганізаванага факультэтам тэалогіі Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта 30 кастрычніка – 1 лістапада г.г., наш карэспандэнт Ігар Іваноў сустрэўся з дырэктарам маскоўскага цэнтра "Духоўная бібліятэка" Жанам-Франсуа Ціры і папрасіў распавесці аб працы хрысціянскай арганізацыі, якую ён узначальвае.**

***Жан-Франсуа Ціры:*** Цэнтр "Духоўная бібліятэка" быў створаны ў 1993г. з мэтай дапамогі зноў народжаным каталіцкім парафіям у Расіі, пастырскай працы праз рэлігійную літаратуру. Пасля распаду Савецкага Саюза з'явілася магчымасць весці непасрэдна ў Расіі тую працу, якую рабілі заходнія выдавецтвы: "Жизнь с Богом" (Брусель), "Христианская Россия" (Мілан), "Славянская библиотека" (Парыж). Шмат гадоў гэтую літаратуру, якая друкавалася на Захадзе, прывозілі ў валізках турысты, раздавалі знаёмым, святарам. Але ўжо ў 90-я гады, калі ў Расіі былі прызначаныя Апостальскія адміністратары і аднаўленыя структуры Касцёла, было вырашана стварыць такі цэнтр у Маскве.

У першыя гады працы мы перадалі вялікую колькасць літаратуры ў семінарыі, грамадскія бібліятэкі, навучальныя ўстановы. Дзякуючы гэтаму зацікаўленыя асобы змаглі больш даведацца пра каталіцкі Касцёл, даведацца, што ён сам кажа пра сябе. Таксама мы пачалі распаўсюджваць праваслаўную літаратуру ў каталіцкіх парафіях і сярод святароў, якія, у большасці, нарадзіўшыся ў іншых краінах, не знаёмыя з праваслаўнай традыцыяй. Таму, несумненна, нашае пачынанне паслужыла паглыбленню ўзаемапаразумення паміж хрысціянамі.

***– З кім супрацоўнічае ваш цэнтр?***

– У першую чаргу, з маскоўскімі каталіцкімі выдавецтвамі: ***Каледжам імя Фамы Аквінскага, "Истина и жизнь", выдавецтвам аа. Францішканаў***. Наш самы блізкі партнёр – "Христианская Россия". Яны былі зацікаўленыя ў арганізацыі цэнтра, непасрэдна ўдзельнічалі ў яго стварэнні. Таксама супрацоўнічаем з некаторымі праваслаўнымі выдавецтвамі. Мы стараемся шукаць новыя кнігі па багаслоўю, літургіцы, гісторыі і г.д., што выходзяць на рынак. Цяпер наш каталог налічвае больш за 300 назваў.

***– Чаму "Духоўную бібліятэку" ўзначалілі менавіта Вы?***

# Цэнтр “Духоўная бібліятэка”

– Я прыехаў у Расію ў 1991 годзе, каб удасканальваць рускую мову, якую вывучаў ва універсітэце. Тады ж у Новасібірску я пазнаёміўся з біскупам Ёзафам Вэртам, Апостальскім адміністратарам для Сібіры, і, чым мог, дапамагаў парафіям. Калі біскупы вырашылі стварыць наш цэнтр, то шукалі чалавека, які мог бы яго ўзначаліць. Звярнуліся да мяне, і я згадзіўся.

***– Ці не займаліся Вы якой-небудзь падобнай дзейнасцю ў Бельгіі?***

– Я быў знаёмы з працай выдавецтва “Жизнь с Богом”, трошкі дапамагаў ім у свае студэнцкія гады, мы разам маліліся за вызнаўцаў веры, за вязняў. Таксама быў знаёмы і з “Христианской Россией”. Разам мы падзялялі жаданне расказаць Захаду пра пакуты і жывы досвед сваіх хрысціянскіх братоў за “жалезнай заслонай”.

***– Вы лічыце сваю дзейнасць толькі працай, ці яна азначае для Вас нешта большае?***

– Не думаю, што гэта місія, у асаблівы спосаб дадзеная мне і не дадзеная маім сябрам, што ў мяне нейкае асаблівае пакліканне. Хутчэй – гэта вымярэнне маёй веры. Як хрысціянін я павінен удзельнічаць у апостальстве, пропаведзі веры і гэтую адказнасць я адчуваю.

***– Вы нарадзіліся і выраслі ў каталіцкай сям‘і?***

– Я вырас у вельмі добрай каталіцкай сям‘і. У 16 гадоў перастаў хадзіць у касцёл, таму што для мяне гэта не азначала чагосьці вельмі важнага. Той перыяд быў часам сур‘ёзных жыццёвых рашэнняў, а ў рэлігійным сэнсе стаўся пераходам ад традыцыі да асабістага пераканання. Два гады, якія я жыў па-за Касцёлам, можна сказаць, былі пустыя, але не марныя. Я выразна зразумеў, што жыццё без Хрыста няпоўнае. Ва універсітэце я напаткаў студэнтаў-хрысціянаў, якія пераканалі мяне, што хрысціянствам немагчыма жыць толькі па нядзелях, што вера можа стаць вымярэннем жыцця, яго поўні.

***– На Вашых вачах расце Касцёл у Расіі. Ці змянілася штосьці за гэтыя сем гадоў у светапоглядзе расійскага католіка і ягоным унутраным жыцці?***

– Перш за ўсё заўважаеш, як будуецца “каменны” Касцёл, але “каменны” Касцёл без “жывых камянёў” – гэта проста пустыя сцены. Я знаёмы з многімі святарамі, якія разумеюць, што не толькі храмы павінны прыцягваць людзей, але і адносіны паміж людзьмі, перакананне, што хрысціянства – больш поўнае жыццё, жыццё ў надзеі і радасці. Таму я б адзначыў несумненны факт імкнення надаць парафіяльнаму жыццю супольны характар.

***– Пасля знаёмства з каталогам Вашага цэнтра ў мяне склалася ўражанне, што Касцёл у Расіі знайшоў магчымасці для сур‘ёзнага дыялогу з інтэлігенцыяй і інтэлектуаламі.***

– Так, сапраўды. Але тут я бачу адну небяспеку: думаць, што розум і мысленне дапамогуць нам атрымаць збаўленне. Я ўпэўнены, што чытанне кніг можа і павінна суправаджацца жывым вопытам веры. Але без такога вопыту, набытага ў парафіях і супольнасцях, у камуніі хрысціянаў, святара з парафіянамі, гэтыя кнігі не маюць карысці, змест іх станецца новай ідэалогіяй. Таму мы хацелі б дапамагаць парафіяльнай дзейнасці і больш увагі надаем працы з парафіямі. Нашыя кнігі могуць быць добрым тлумачэннем хрысціянскага вопыту.

***– Вы часта прыязджаеце на Беларусь?***

– Упершыню на Беларусь я прыехаў разам з нунцыем Аўгустыно Маркэта і займеў тут добрыя сяброўскія сувязі, што дапамагае ўзбагачацца вопытам. Цяпер мы супрацоўнічаем, у асноўным, з факультэтам тэалогіі Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта і Адукацыйным фондам св. Мятода і Кірыла. Нас аб‘ядноўвае агульны інтарэс у стварэнні магчымасцяў для людзей сустрэць Хрыста як жывы вопыт. Мы ўжо змаглі рэалізаваць канкрэтныя праекты: выставу рэлігійнай літаратуры і фотавыставу “Ад Святой Зямлі – да ўсіх народаў”. Мы не абмяркоўваем багаслоўскіх і дагматычных пытанняў, але мне б хацелася, каб нашыя пачынанні паслужылі еднасці Цэркваў, бо ў асобе Езуса Хрыста мы адзіныя.

У Расіі мы дапамагаем парафіям ствараць уласныя невялікія бібліятэкі. Кожнай беларускай парафіі мы таксама гатовыя падараваць па адным экземпляры нашых выданняў. Адзінае, пра што трэба будзе паклапаціцца, – гэта дастаўка кніг з Масквы. Магчыма, гэта сталася б пачаткам больш цеснага супрацоўніцтва.

***Цэнтр “Духовная библиотека”***
***Тэл/факс (095)9770870***
***Адрес: Москва,***
***Дмитровское шоссе, 5/1, кв.134***

# Навукова-педагагічны семінар у ЕГУ

***1 лістапада ў Мінску закончыўся двухдзённы навукова-педагагічны семінар, арганізаваны факультэтам тэалогіі Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта і Хрысціянскім адукацыйным фондам імя св.Мятода і Кірыла. Гэта быў ужо трэці па ліку семінар (першы адбыўся ў снежні мінулага года), прысвечаны пытанням хрысціянскай педагогікі, які ЕГУ арганізуе разам з Асацыяцыяй выкладчыкаў Італіі "Diesse". Для іх правядзення запрашаюцца кіраўнікі гэтай асацыяцыі, а з беларускага боку ўдзельнічаюць выкладчыкі рэлігіязнаўчых і іншых гуманітарных дысцыплінаў, а таксама студэнты, перадусім тэалагічнага факультэта ЕГУ.***

Падчас апошняга семінара прафесар гісторыі і філасофіі Джузэпэ Мэроні (адначасова ён узначальвае асацыяцыю "Diesse") прачытаў лекцыю на тэму "Складанасці і магчымасці пераказу хрысціянскіх падзеяў", у якой закрануў пытанні тэндэнцый на аддаленне свядомасці сучаснага чалавека ад хрысціянства і вырашэнне гэтай праблемы ў рамках свецкай адукацыі. Ён падкрэсліў, што Касцёл сёння можа прысутнічаць ва ўсіх сферах жыцця секулярызаванага свету перадусім праз сведкаў аб'ектыўнай гістарычнай падзеі – уваскрасення Хрыста і збаўлення чалавека – і аб'ектыўнага факту існавання Касцёла. Сучаснаму чалавеку не патрэбнае хрысціянства ў выглядзе культуралагічных канцэпцый, філасофіі альбо ідэалогіі. Было б памылкай прапаноўваць гэта.

Другую лекцыю – "Выкладанне рэлігіі сёння" – прачытаў віцэпрэзідэнт асацыяцыі "Diesse", прафесар гісторыі і філасофіі Альбэрто Мафіялецці. Ён звярнуў увагу на асаблівасці рэлігійнай адукацыі моладзі і прадставіў метад выкладання як "сустрэчу з рэальнасцю" – рэальнасцю, якой для вучня становіцца змест прадмета дзякуючы таму, што выкладчык сам з'яўляецца сведкам пэўнага вопыту. А.Мафіялецці адзначыў, што нельга прапаноўваць чалавеку "па-за рэчаіснае хрысціянства", бо гэта значыла б "прапаноўваць жыць у па-за рэчаісным свеце". Таму пачатковым пунктам выкладання рэлігіі павінен быць чалавек і абставіны яго жыцця.

Лекцыі італьянскіх гасцей сталі прадметам абмеркавання студэнтамі і выкладчыкамі, якія неаднаразова падкрэслівалі, што выкладанне рэлігіязнаўчых дысцыплін паставіла шматлікія пытанні перад гуманітарнай адукацыяй увогуле, прынцыпы якой на Беларусі былі сфармаваны на аснове марксісцкай ідэалогіі і матэрыялістычнага светапогляду, што абумовіла скіраванасць сістэмы адукацыі на знешнія ўплывы і няздольнасць да глыбокай трансфармацыі.

У размове з карэспандэнтам "КН" кіраўнік фонда св.Мятода і Кірыла Рыгор Даўгяла сказаў, што арганізатары семінараў хацелі б аказаць метадычную дапамогу выкладчыкам і катэхізатарам, а таксама засведчыць, перадусім перад дзяржаўнымі органамі адукацыі, што немагчыма кампетэнтна выкладаць рэлігіязнаўчыя дысцыпліны без асабістага рэлігійнага вопыту, без сустрэчы з феноменам рэлігіі.

Асацыяцыя выкладчыкаў Італіі "Diesse" заснавана ў 1987г. як прыватная арганізацыя па ініцыятыве некалькіх выкладчыкаў-хрысціянаў. Яна стваралася з дзвюма мэтамі: па-першае, развіваць пачуццё адказнасці выкладчыка, які дае адукацыю, а падругое – дапамагчы выкладчыкам дасягаць узроўню прафесіяналізму, які адпавядае патрабаванням часу і рэчаіснасці. За кароткі тэрмін былі створаны 52 аддзяленні асацыяцыі ва ўсіх рэгіёнах Італіі і галоўная рэзідэнцыя "Diesse" у Мілане. Дзейнасць арганізацыі накіравана на працу з падлеткамі – вучнямі школаў і першых курсаў універсітэтаў. Асацыяцыя "Diesse" выдае шмат спецыялізаваных часопісаў, рэалізуе шырокую праграму курсаў перападрыхтоўкі выкладчыкаў школаў і універсітэтаў, удзельнічае ў перыядычных кансультацыях Міністэрства народнай адукацыі, якія праводзяцца сумесна з іншымі прафесійнымі асацыяцыямі выкладчыкаў Італіі. Духоўны кіраўнік асацыяцыі "Diesse" – знакаміты багаслоў, аўтар некалькіх кніг а.Луіджы Джусані.

Еўрапейскі гуманітарны універсітэт – недзяржаўная навучальная ўстанова, адным з заснавальнікаў якой з'яўляецца Беларускі Экзархат Рускай Праваслаўнай Царквы. Цяпер ва універсітэце на розных факультэтах навучаецца звыш 600 студэнтаў. ЕГУ – адзіная свецкая навучальная ўстанова на Беларусі, дзе можна атрымаць тэалагічную адукацыю. На 5 курсах тэалагічнага факультэта навучаецца менш за 80 студэнтаў, дэканам факультэта з'яўляецца мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усёй Беларусі. Сёлета адбыўся першы выпуск тэолагаў.

***Ігар Іваноў***

## Беатыфікацыйныя рэкорды 20-гадовага пантыфікату

Палова ўсіх, здзейсненых за гісторыю Касцёла кананізацый і беатыфікацый адбылася па волі Яна Паўла II, – вынікае з паведамлення, якое інфармацыйнае агенцтва KAI 19 кастрычніка атрымала ад Кангрэгацыі па справах Святых. Калі ўлічыць чатырох чалавек, якія былі беатыфікаваныя 25 кастрычніка, Папа вынес на хвалу алтара 1085 чалавек.

З 1605 года, часоў Папы Паўла V, каталіцкі Касцёл абвясціў благаслаўлёнымі 1617 чалавек. 805 з іх – гэта асобы, беатыфікаваныя падчас пантыфікату Яна Паўла II. Між тым, ад 1592 года – часу першай кананізацыі, аб якой у кангрэгацыі ёсць поўныя дадзеныя, абвешчана святымі 570 чалавек, а з іх 280, або амаль палова – гэта святыя, кананізаваныя польскім Папам.

## Папская була аб Святым Годзе

29 лістапада ў Ватыкане Ян Павел II абвясціў булу “Incarnationis mysterium”, якая ўстанаўлівае 2000 год Святым Годам. Цырымонія адбылася перад Святымі Дзвярыма, якія Папа адчыніць у Вігілію Божага Нараджэння ў будучым годзе, што будзе азначаць пачатак Святога Года. Святы Год пачнецца апоўначы з 24 на 25 снежня 1999г. і працягнецца да 6 студзеня 2001г. Гэта будзе 30 Святы Год у гісторыі Касцёла. Першы Святы Год быў абвешчаны Папам Баніфацыем VIII у 1300г. Першапачаткова Святыя Гады павінны былі абвяшчацца кожныя 100 гадоў, аднак з часам Папы скарацілі гэты тэрмін да 50, а потым да 25 гадоў. У 1800 і 1850 юбілеі не адбыліся ў сувязі са складанай палітычнай сітуацыяй і непрысутнасцю Папы ў Рыме. Святыя Гады традыцыйна прыцягвалі ў Рым нашмат большую колькасць пілігрымаў, чым у звычайны час.

## Просьба прэзідэнта ЗША

Прэзідэнт Біл Клінтан папрасіў дваіх пратэстанцкіх прапаведнікаў аб духоўнай падтрымцы і аб супольнай штотыднёвай малітве, каб перамагчы спакусы. Такую інфармацыю паведаміла адміністрацыя Белага Дому пасля апублікавання рапарта пракурора К.Стара на тэму па-за сужэнскага сэксуальнага жыцця прэзідэнта.

## ЗША: былая прыхільніца абортаў стала каталічкай

Былая амерыканская прыхільніца абортаў, 50-гадовая Норма Маккорві, вядомая як Джэйн Ру, стала каталічкай. Яна афіцыйна была прынята да каталіцкага веравызнання падчас прыватнай цырымоніі, якая адбылася ў касцёле св.Тамаша Аквінскага ў Даласе.

У студзені 1973 г. Ру перамагла ў судзе па т.зв. “справе супраць Уэйд” аб праве на аборт, пасля чаго Вышэйшы суд ЗША легалізаваў аборты па жаданні. Паводле ацэнак, за перыяд з 1973г. у ЗША было перарвана больш за 35млн. цяжарнасцяў. Ру сама не карысталася новым правам. У мінулым годзе Норма Маккорві стала абаронцай жыцця. Гэтаму папярэднічалі шматлікія намаганні і малітвы адной з пратэстанцкіх абшчынаў.

*KAI*

***7 снежня ў Мінскай архікатэдры дыякан Андрэй Сіповіч атрымаў святарскае пасвячэнне з рук Яго Эмінэнцыі кардынала Казіміра Свёнтка.***

## Святарскае пасвячэнне ў Мінскай катэдры



**Кс. Андрэй Сіповіч** нарадзіўся 24 красавіка 1970г. у в.Брыцікі Шаркаўшчынскага раёна Віцебскай вобласці. Пасля заканчэння школы вучыўся ў ПТВ, служыў у войску, працаваў кінамеханікам. Дзякуючы прыкладу кс. пралата Юзафа Булькі, пробашча з Мосара, ён вырашыў абраць шлях святарскага служэння і ў 1992 годзе паступіў у Гродзенскую духоўную семінарыю. У 1997 годзе быў пасвечаны ў дыякана. У вольны час любіць чытаць.

Кс. А.Сіповіч – 18-ы святар, пасвечаны кардыналам Казімірам Свёнткам.



# Jan Paweł II i liturgia

***Gdziekolwiek na świecie gromadzą się katolicy, aby sprawować Najśw. Eucharystię, rozbrzmiewa podczas modlitwy eucharystycznej, od 18 lat, imię „Naszego Papieża Jana Pawła II"; tak się wypowiada sprawowanie misterium Chrystusa we wspólnocie kościelnej, która ma za przedmiot kierowanie się do Następcy Apostoła Piotra, przewodniczącego w miłości wszystkim Kościołom. To zestawienie liturgiczne „komunii" z Papieżem w sercu liturgii eucharystycznej zachęca do refleksji na temat "Jan Paweł II i liturgia".***

***Chcąc uwypuklić nauczanie Ojca Świętego o liturgii, należy uwzględnić dwa elementy:***

***sprawowanie liturgii przez Ojca Świętego i jego nauczanie o niej.***

**1. Liturgia sprawowana przez Papieża**

Wszyscy wierzący i niewierzący mogą stwierdzić będąc osobiście na miejscu lub przez telewizję z niezliczonych okazji, jaką jest wewnętrzna pobożność, która bije od Ojca Świętego podczas sprawowania liturgii.

Świadectwo głębokiego pojmowania tajemnicy sprawowanej i żywe uczęstniczenie w niej jest pierwszą lekcją, której Papież udziela temu, kto z nim się modli czy to w kaplicy prywatnej, czy w bazylice św. Piotra, czy wreszcie na jakimś stadionie, lub jakimś placu naszych miast.

Nowością, która wyróżnia od początku pontyfikat Jana Pawła II, jest jego wola odprawiania Mszy św. codziennie w kaplicy prywatnej razem z jakąś grupą wiernych.

Jest bardzo wiele osób, pochodzących z całego świata, które mogły cieszyć się z uczestniczenia w tej szczególnej modlitwie Ojca Świętego, umacniającej ducha i sposób stawiania czoła każdego dnia trudnościom doczesnego pielgrzymowania.

Sprawowanie liturgii przez Ojca Świętego w bazylice Św. Piotra wprowadzają w bogactwo sakramentalnego organizmu Kościoła, przede wszystkim w Eucharystię, ale także w Chrzty, Małżeństwa, Święcenia, Bierzmowania, Spowiedzi, Nieszpory...

Wizyty w parafiach Rzymu, których punktem centralnym jest sprawowanie Eucharystii, nie tylko świadczą o trosce Pasterza o swój Kościół diecezjalny, ale przypominają chrześcijanom ważność uczestniczenia w niedzielnej Mszy św. razem ze wspólnotą chrześcijan, do której należą.

Liturgie sprawowane podczas podróży apostolskich Papieża do każdej części świata podkreślają otwartość na różne style sprawowania liturgii i świętych misteriów tego samego i jedynego Rytu rzymskiego.

Nie można zapomnieć o przewodniczeniu sprawowanej liturgii w różnych rytach wschodnich i zachodnich (ostatnio była Boża Liturgia w rycie bizantyjskim Biskupów Ukrainy sprawowana pod przewodnictwem Ojca Świętego w bazylice św. Piotra w niedzielę, dnia 27 X (1996).

**2. Nauczanie Jana Pawła II o liturgii**

Są bardzo liczne wypowiedzi o charakterze liturgicznym w Encyklikach, Adhortacjach Apostolskich, Listach Apostolskich, Przemówieniach z różnych okazji (Przemówienia na posiedzeniach plenarnych Kongregacji poświęconych życiu liturgicznemu, wizyty *ad limina,* niedzielne Anioł Pański, katechezy środowe). Nie można przejść obojętnie wobec bogactwa myśli „liturgicznej" zawartej w wypowiedziach Jana Pawła II. Podkreślamy tylko niektóre aspekty

Krótko mówiąc, Jan Paweł II przede wszystkim wyznaczył sobie cel: niesienie pomocy Kościołowi w wewnętrznym życiu liturgii zapoczątkowanym na Soborze Watykańskim II, a ustanowionym przez Pawła VI; zmiana tekstów i obrzędów była pierwszym krokiem ku udoskonaleniu sprawowania liturgii; ale przede wszystkim potrzeba przyjąć tajemnicę we własnym sercu, mając na widoku codzienne życie według niej.

Za pontyfikatu Jana Pawła II zostały opublikowane: *Ceremoniale Episcoporum* (przejrzane według zaleceń i dyspozycji posoborowych) i księgi liturgiczne *De Benedictionibus* (są to błogosławieństwa praktykowane w różnych sytuacjach, momentach, miejscach a także szczególne momenty wspólnoty czy poszczególnych wiernych), *Collectio Missarum de beata Maria Virgine* (jako uzupełnienie Mszału Rzymskiego). Zostały wznowione edycje typiczne *Liturgia Horarum, Ordo celebrandi Matrimonium i De Odinatione Episcopi, Presbyterorum et Diaconorum.*

Jan Paweł II pamiętał także o tajemnicy eucharystycznej (List *Dominicae Cenae*) i o praktykach ludowej pobożności.

**3. Kontynuacja i przyjęcie Konstytucji o Liturgii św. - *„Sacrosanctum Concilium"***

Jeżeli ostatnio i to kilka razy, Jan Paweł II rozwijał i wzbogacał nauczanie soborowe o liturgii, to orzeczenia co do pewnych kierunków bardziej znaczących zostały przedstawione w Liście *Yicesimus quintus annus,* napisanym z okazji 25-lecia ogłoszenia Konstytucji soborowej o Liturgii św.

Po ukazaniu we wprowadzeniu do Listu, że „dokonując reformy liturgii, Sobór zrealizował w sposób szczególny swój podstawowy cel, jaki sobie postawił". Papież skupił się na węzłowych tematach, które dotyczą tajemnicy kultu chrześcijańskiego, czy to z punktu widzenia teologiczno -obrzędowego, czy to pastoralno-dyscyplinarnego. Wymienione tytuły pozwalają zobaczyć rozmach i konkretność Ojca Świętego.

*Il rinnovamento nella linea della tradizione - Odnowa wytyczona przez tradycję:* „ Reforma obrzędów i ksiąg liturgicznych została rozpo-

częta niemal bezpośrednio po ogłoszeniu konstytucji *Sacrosanctum Concilium* i została zrealizowana w ciągu kilku lat dzięki wielkiej i bezinteresownej pracy grup ekspertów i pasterzy ze wszystkich stron świata. W pracy tej kierowano się soborową zasadą wierności Tradycji i otwarcia się na prawidłowy postęp; dlatego można powiedzieć, że reforma liturgiczna jest ściśle tradycyjna, *ad normam Sanctorum Patrum* " (nr 4).

Wśród zasad Konstytucji soborowej, które stanowiły podstawę reformy, a które także dziś odgrywają zasadniczą rolę w prowadzeniu wiernych do czynnego sprawowania liturgii, Ojciec Święty podkreśla trzy; *uobecnienie Tajemnicy paschalnej, czytanie słowa Bożego, objawianie się Kościoła samemu sobie.*

Tak więc, Papież podkreśla ciągłe zobowiązanie odnośnie do liturgii: „Jeśli reforma liturgii, taka, jakiej chciał Sobór Watykański II, została już zrealizowana, to zadaniem do wykonania pozostaje wciąż jeszcze duszpasterstwo liturgiczne, które pozwoli z bogactwa liturgii obficie czerpać moc spływającą z Chrystusa na wszystkie członki Jego Ciała, którym jest Kościół" (nr 10): Stąd płyną *wskazania odnoszące się do wprowadzenia odnowy życia liturgicznego,* począwszy od sprawowania liturgii i jej komponentów, między którymi : „wierność obrzędom i autentycznym tekstom liturgicznym (...) brak wierności w tym zakresie może także dotknąć samej ważności sakramentów" (nr 10); uczestnictwo aktywne, wymiar wspólnotowy, aspekt dyscyplinarny, używanie języka żywego bez eliminowania języka łacińskiego, możliwość dostosowania do zgromadzenia i do osób, możliwość - niekiedy koniecznego - otwarcia się na ducha i kulturę różnych narodów

Zatrzymując się nieco przy *konkretnym wprowadzeniu reformy,* Ojciec Święty widzi jasno sprawy; mówi o napotkanych *trudnościach,* o osiągniętych *pozytywnych rezultatach, o błędnych zastosowaniach, które miały miejsce.*

W świetle nagromadzonego doświadczenia minionych lat i rozwoju reformy liturgicznej według ksiąg i rytów aktualnych, Papież nie przestaje patrzeć *w przyszłość* odnowy, wskazując niektóre otwarte sprawy: *formacja biblijna i liturgiczna, dostosowanie, zwrócenie uwagi na nowe problemy, liturgia i pobożność ludowa.*

Na końcu, Papież przypomina o znaczeniu kompetentnych *instytucji odpowiedzialnych za odnowę liturgiczna a mianowicie Kongregacji do spraw Kultu Bożego i Dyscypliny Sakramentów, Konferencji Biskupów, Biskupa diecezjalnego.*

**4. Inkulturacja**

Do dojrzewania problematyki odnośnie do przystosowania liturgii rzymskiej do różnych i odmiennych kultur, sprawa bardzo dawna w Kościele ale zarazem nowa i przebiega od entuzjazmu do sprzeciwu, daje bez wątpienia materiał w sposób rozstrzygający Janowi Pawłowi II. Msze św. sprawowane podczas podróży apostolskich Papieża są znakiem ewidentnym. Jak nie pamiętać na przykład „kolor", który ożywił Bazylikę św. Piotra w czasie Mszy na otwarcie i zamknięcie Synodu afrykańskiego?

Pewna określona refleksja nad związkiem liturgii i kultury została przedstawiona przez Jana Pawła II w encyklice *Slavorum Apostoli* (2 VI 1985): dzieło świętych Cyryla i Metodego, poza pouczeniem, że liturgia jest ludu i dla ludu, zachęca do tego, aby zdawać sobie sprawę z różnych tradycji kościelnych. Papież podkreśla, że owi dwaj bracia tesaloniczanie „nie obawiali się wprowadzenia języka słowiańskiego do liturgii, czyniąc zeń skuteczne narzędzie przybliżenia prawd Bożych ludom mówiącym tym językiem" (nr 12). A „kierowani ideałem zjednoczenia w Chrystusie nowych wierzących dali językowi słowiańskiemu bogate, piękne teksty liturgii bizantyjskiej oraz dostosowali do umysłowości i obyczajów nowych ludów subtelne i złożone przepisy prawa grecko-rzymskiego" (nr 13).

W encyklice *Redemptoris Mater* (25 III 1987) wspominając właściwości i różnorodność kultu *Madre di Dio* w Kościele wschodnim, według ich kultur, Ojciec Święty podkreśla komplementarność i bogactwo różnych tradycji wschodnich i zachodnich za pośrednictwem pewnego obrazu użytego przy innej okazji: „Tak wielkie bogactwo chwały, zebrane z różnych form wielkiej tradycji Kościoła, mogłoby nam pomóc do tego, aby Kościół zaczął na nowo oddychać w pełni „obydwoma płucami" chodzi o Wschód i Zachód" (nr 34).

To jest wzmiankowane w specjalny sposób w Instrukcji *La Liturgia Romana e l 'inculturazione* (25 I 1994), która kończy się zwrotem: „Niniejsza Instrukcja została opracowana przez Kongregację do spraw Kultu Bożego i Dyscypliny Sakramentów z polecenia Jego Świątobliwości Papieża Jana Pawła II, została ona zatwierdzona z poleceniem , aby była ogłoszona".

Nadzwyczajny Rok Święty Zbawienia (1983-84) był jedną z propozycji wychowawczych dla wspomożenia całego Kościoła, aby odkrył „w sposób nadzwyczajny" rzeczywistość „zwyczajną", którą jest życie sakramentalne.

Także w Liście *Tertio Millennio adveniente* programującym przygotowanie do Jubileuszu 2000, myśli przewodnie Jana Pawła II akcentują dynamikę sakramentalną w życiu chrześcijańskim:

podkreślenie trynitarności (Chrystus - Duch Święty - Ojciec) i sakramentów (Chrzest, Bierzmowanie, Pokuta, Eucharystia) zbiegają się w zaproszeniu, do refleksji nad komunią między Bogiem i ludzkością, zamkniętą w Chrystusie zrodzonym z Dziewicy, znajduje odbicie w Kościele sprawującym liturgię, aby się wyrazić w życiu wiary, nadziei i miłości każdego ucznia-Pana czy też w kulcie życia „w duchu i prawdzie".

**Geraldo M.Agnelo,**
*sekretarz Kongregacji ds Kultu i Dyscypliny Sakramentów*

*Notitiae, 364-365 (1996) 1032-1037.*

*tłum. ks. Stanisław Pawlina fDP*

# Біблійнае таварыства Рэспублікі Беларусь

Біблію чытаюць мільёны людзей, каб разумець Божую волю і фармаваць сваё штодзённае жыццё. Найбуйнейшым цэнтрам, які распаўсюджвае Бібліі, а таксама іншую духоўную літаратуру ў нашай краіне, з'яўляецца Біблійнае таварыства Рэспублікі Беларусь (БТРБ).

Біблійнае таварыства – гэта рэлігійная арганізацыя, створаная ў студзені 1992г. па ініцыятыве вернікаў хрысціянскіх канфесій: праваслаўных, рыма- і грэка-католікаў, пратэстантаў розных дэнамінацый. Прадстаўнікі гэтых канфесій уваходзяць у склад праўлення БТРБ. Беларускае Біблійнае таварыства ўваходзіць у Сусветную садружнасць Аб'яднаных біблійных таварystваў, якая складаецца з 140 нацыянальных Біблійных таварystваў, што дзейнічаюць у больш як 180 краінах свету.

Папулярызацыя духоўнага і маральнага багацця Бібліі, адраджэнне хрысціянскіх традыцый, цеснае супрацоўніцтва з хрысціянскімі канфесіямі, пераклад Св.Пісання на беларускую мову – гэта толькі некаторыя з мэтаў, якія ставіць перад сабой Біблійнае таварыства. Галоўная з іх – забеспячэнне кожнага, хто гэтага жадае, Бібліяй і біблійнай літаратурай. Таварыства здзяйсняе таксама шэраг дабрачынных праектаў па распаўсюджванню Св. Пісання.

Акрамя Бібліі (на розных мовах) таварыства прапануе разнастайную літаратуру – духоўную і навуковую, а таксама ілюстраваныя выданні для дзяцей.

***Адрас Біблійнага таварыства ў Мінску: вул. Чыгладзэ, д.19. Тэл. ( 0172 ) 503 998, факс 502284.***

# Прэзентацыя кнігі Святога Айца




25 лістапада ў Баранавіцкім місійным доме айцоў-вербістаў адбылася прэзентацыя кнігі Яна Паўла II "Пераступіць парог надзеі", якая



нядаўна выйшла ў перакладзе на беларускую мову. Перакладчыца кнігі, вядомая беларуская пісьменніца, галоўны рэдактар часопіса "Наша вера" Крыстына Лялько расказала прысутным пра асобу аўтара кнігі – Яна Паўла II, з якім яна двойчы сустракалася, а таксама пра сваю працу над перакладам. На вечары прагучалі вершы К.Лялько ў аўтарскім выкананні.

Прэзентацыя адбылася ў цёплай сяброўскай атмасферы, якую стварылі гаспадары гэтага вечара – айцы-вербісты і мясцовая каталіцкая інтэлігенцыя.

*АІК*



# Рыхтуецца каталіцкая энцыклапедыя

Амаль 4 тысячы артыкулаў будзе ўтрымліваць першая Расійская каталіцкая энцыклапедыя, якая па частках будзе выдавацца ў Маскве (плануецца некалькі тамоў). Адзін з сааўтараў праекта прафесар Аляксей Юлін паведаміў, што перш за ўсё артыкулы будуць інфармаваць пра ўклад Касцёла ў агульначалавечую культуру.

Для энцыклапедыі рыхтуюцца артыкулы пра святых, святароў, кансэкраваных асобаў, біскупаў і свецкіх, якія сталі вядомыя як навукоўцы, паэты і музыканты. Важнае заданне каталіцкай энцыклапедыі – даць магчымасць чытачу атрымаць з "першых рук" інфармацыю пра вучэнне Касцёла, яго погляды на маральныя і грамадскія праблемы сучаснага свету, – падкрэсліў А.Юлін. Ён дадаў, што шмат увагі прысвячаецца таксама развіццю міжканфесійных адносінаў. Адмовіўшыся ад палемікі, ініцыятары выдання паставілі перад сабой мэту аб'ектыўна адлюстраваць важныя моманты ў стасунках паміж носьбітамі розных веравызнанняў.

У абмеркаванні падрыхтаванага матэрыялу ўдзельнічаюць навукоўцы з універсітэтаў і іншых каталіцкіх навучальных установаў Італіі, Францыі, Польшчы і Германіі. У далейшым удзельнічаць у дыскусіі над артыкуламі будуць запрошаны прадстаўнікі іншых хрысціянскіх веравызнанняў, у т.л. Рускай Праваслаўнай Царквы.




**Каталіцкія навіны.** № 12/1998 (37-38) Выданне Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла.
Рэг. № 686. **Адрас рэдакцыі:** пл.Свабоды 9, 220030 Мінск. **Факс** (017) 226-90-92. **E-mail:** maria@maria.belpak.minsk.by.
Падпісана да друку 10.12.98. Фармат 62 1/8. Наклад 3000 экз. Зак.34. Надрукавана ПП В.Ю.А. Пасв. №836. Вул.Чкалава,14
Акрамя матэрыялаў уласных карэспандэнтаў у нумары выкарыстаны паведамленні замежных выданняў і агенцтва КАІ.